№31 жнівень 2013

# Настаўнік.info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

# ЧАМУ СЫХОДЗЯЦЬ ПЕДАГОГІ
## або колькі словаў пра матывацыю

Тэрмінам «матывацыя» нікога цяпер не здзівіш. Абяцаннямі патлумачыць, як павысіць яе і ўвогуле як навучыцца правільна скарыстоўваць гэты «цудадзейны сродак» дасягнення поспеху, стракацяць інтэрнет і сродкі масавай інфармацыі: трэнінгі, практыкумы, онлайн-семінары… Даказваць, што ў педагагічнай працы абысціся без матывацыі (маю на ўвазе ў дадзеным выпадку не вучня, а самога настаўніка) немагчыма, не выпадае. На словах усе з гэтым згодныя – пачынаючы ад саміх настаўнікаў і заканчваючы адміністрацыяй навучальных устаноў. Чаму ж на практыцы нярэдка бачым мы згаслыя вочы педагогаў? Куды знікае з цягам часу іх імпэт, «душы шляхетныя памкненні»? Ці дапаможа нам адказаць на гэтае пытанне модны тэрмін «прафесійнае выгаранне»?

Знаёмая настаўніца летась развіталася са сваёй навучальнай установай пасля амаль двух дзесяцігоддзяў працы ў ёй. Сышла не ў рэпетытарства, а досыць кардынальна памяняла сферу дзейнасці, абраўшы працу ў адной са шматлікіх кампаній, што займаюцца продажам тавараў (у дадзеным выпадку – сродкаў для здаровага ладу жыцця). Чаму добры прафесіянал-гуманітарый, чые вучні адзначаліся нават на міжнародных конкурсах, раптам вырашыла памяняць «профіль»? Вядома, кожны чалавек робіць выбар, зыходзячы з тых ці іншых асабістых поглядаў ды меркаванняў, хай сабе гэтыя погляды і фарміруюцца пад уплывам розных фактараў: эканамічных, сацыяльных, псіхалагічных… У нашым канкрэтным выпадку на рашэнне паўплывала менавіта імкненне да большай матываванасці сваёй дзейнасці, да асабістага росту (у тым ліку і ў матэрыяльным плане).

Знаёмая, наколькі ведаю, на змену прафесіі не скардзіцца і адчувае сябе ў новай якасці досыць упэўнена. Да яе



прыкладу мы яшчэ вернемся, а пакуль нагадаем, што ўвогуле гавораць спецыялісты аб матывацыі ў працы педагога.

Як вядома, пад матывацыяй у шырокім сэнсе слова разумеюць падахвочванне да дзеяння сукупнасцю розных матываў. Матывацыя можа быць унутранай і знешняй. І калі ўнутраная матывацыя з'яўляецца самакаштоўнай, самадастатковай для чалавека, яна не звязана са знешнім прызнаннем і поспехам, так бы мовіць, «аўтаматычная», то матывацыя знешняя якраз прадугледжвае, што чалавек імкнецца заняць пэўнае месца ў соцыуме. І тут ужо факт прызнання яго працы грае ці не галоўную ролю. Сярод асноўных унутраных матываў да дзейнасці псіхолагі называюць мары, самарэалізацыю, творчасць, цікаўнасць, адчуванне сваёй запатрабаванасці, асабісты рост. Знешнія матывы таксама збольшага вядомыя кожнаму: грошы, кар'ера, прызнанне заслуг, пэўны сацыяльны статус і гэтак далей.

Расійскі спецыяліст у дадзенай галіне А.Байметаў, вывучаючы матывы педагагічнай дзейнасці, аб'яднаў іх у тры групы: матывы абавязку; матывы зацікаўленасці і захопленасці выкладаемым прадметам; матывы захопленасці зносінамі з дзецьмі, інакш кажучы, «любоў да дзяцей».

(Працяг на стар.3)

Рэгіёны

## РЭГІЯНАЛЬНАЯ ПРЭСА ПРА АДУКАЦЫЮ

**Дзейнасць Таварыства беларускай школы (1921-1936 гг.)**
**Газета Слонімская**

На працягу амаль усяго перыяду акупацыі Польшчай заходнебеларускіх земель (1921-1939 гг.) у грамадскім жыцці беларусаў вялікую ролю адыгрывала Таварыства беларускай школы – культурна-асветніцкая, а затым і рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя.

Датай стварэння Таварыства беларускай школы лічыцца 22 лютага 1922 года, калі на адным з паседжанняў Цэнтральнай беларускай школьнай рады ў Вільні была прынята пастанова стварыць спецыяльнае Таварыства беларускай школы, якому ЦБШР перадасць свае паўнамоцтвы і маёмасць.

Праз некаторы час быў зацверджаны статут ТБШ. Галоўны напрамак дзейнасці арганізацыі вызначаўся як «развіццё беларускіх школ і беларускай асветы наогул». Згодна з палажэннем статута, ТБШ мела права адкрываць і ўтрымліваць народныя школы, праводзіць курсы для непісьменных дарослых, утрымліваць настаўніцкія семінарыі, бібліятэкі, аказваць вучэбна-метадычную і грашовую дапамогу.

Наогул ля вытокаў ТБШ сталі Б. Тарашкевіч, А. Луцкевіч, А. Трэпка і інш. Стварэнне Таварыства на Віленшчыне стала магчымым з-за таго, што менавіта ў гэтым краі была сканцэнтравана пакуль

## Рэгіёны

яшчэ нешматлікая беларуская інтэлігенцыя.

### Працоўны лагер: школьнікі засталіся вінныя?
**Intex-press**

Упершыню з часоў СССР на тэрыторыі Беларусі сёлета адноўлена дзейнасць працоўных атрадаў і лагераў для падлеткаў. Не засталіся ў баку і Баранавічы, дзе на базе аднаго з аздараўленчых летнікаў раёна быў расквартараваны працоўны атрад у складзе 12 школьнікаў.

Са словаў школьнікаў, ім паабяцалі заробак «не менш за мінімальны», які роўны 1.395.000 рублёў. Аднак з пастановы аб парадку арганізацыі і фінансаванні часовай працоўнай занятасці моладзі вынікае, што, паколькі дзеці працавалі не цэлы месяц, а толькі 15 дзён, то заробак ім налічаць зыходзячы з мінімальнага пагадзіннага. У летніку кожны са школьнікаў адпрацаваў па 15 працоўных дзён працягласцю па 7 гадзін. Улічваючы мінімальную пагадзінную аплату, вызначаную ў памеры 8340 рублёў, нескладана падлічыць, што атрымаюць дзеці крыху больш за 875 тысяч рублёў. Ці аднімуць кошт харчавання і пражывання ў летніку, альбо гэтыя выдаткі ўжо ўнесены ў кошт пуцёўкі, незразумела: кіраўніцтва лагера вырашыла нічога не каментаваць «ІР». Але як бы там ні было, пагасіць кошт пуцёўкі са сваіх заробкаў, падобна, школьнікі не змогуць.

### Маладзечанскім школам не хапае 20 настаўнікаў-замежнікаў
**Рэгіянальная газета**

У школы Маладзечаншчыны накіравалі толькі шэсць спецыялістаў па замежных мовах.

– Найперш не хапае спецыялістаў па англійскай і нямецкай мовах, – кажа інспектар па кадрах аддзела спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама Святлана Красненка.

А вось запыт з настаўнікамі матэматыкі перавысілі. Па гэтым прадмеце на горад і раён заяўлялі сем спецыялістаў, а прыслалі восем. Таму з матэматыкамі праблема адпала.

Хапае і настаўнікаў па беларускай і рускай мовroutes. Іх сёлета нават не размяркоўвалі.

Усяго па размеркаванні прыехала 67 настаўнікаў, з іх трое самі ўладкаваліся на працу. Сем чалавек накіравалі на раён: у Радашкавічы, Краснае і Чысць.

Па словах спадарыні Святланы, не ўсе спецыялісты маюць вышэйшую адукацыю. 15 новых настаўнікаў маюць сярэднюю спецыяльную адукацыю.

### 20 гадзін – і ўсё жыццё. Развагі пра школу, настаўнікаў і зарплату
**Брестский курьер**

Тое, пра што казалася апошнім часам у настаўніцкім асяроддзі і ў што асабіста я не верыў, адбылося. Пастановай Савета Міністраў ад 6 жніўня 2013 г. № 689 тыднёвая навучальная нагрузка настаўнікаў і педагогаў дадатковай адукацыі павялічана з 18 да 20 гадзін. Адначасова выкладчыкам ліцэяў і каледжаў яе падвысілі з 720 да 800 гадзін у год.

Абапіраючыся на асабісты шматгадовы досвед працы ў адукацыйнай сферы, наважуся спрагназаваць рэакцыю пралетарыяў інтэлектуальнай працы, чые правы і інтарэсы растаптаныя ў чарговы раз.

Нічога не здарыцца. Моўчкі, яны чарговым разам праглынуць дапушчаную адносна іх несправядлівасць. Магчыма, пагутараць на кухнях. Будуць і далей утрымліваць сваіх прафсаюзных «абаронцаў», застаючыся сябрамі гэтых арганізацый. Па камандзе зверху будуць і далей у складзе выбаркамаў забяспечваць «патрэбным» кандыдатам «элегантныя» перамогі на «выбарах». Працягнуць мірыцца з рабскай кантрактнай сістэмай, пакорліва выконваць неўласцівыя ім функцыі. Вось толькі сваю асноўную функцыю яны ўсё ў большай ступені ажыццяўляюць горш і горш. Пра гэта пераканаўча сведчаць вынікі тэставання.

### Настаўнікаў аптымізавалі
**Інфа-Кур'ер**

Выкладчыца адной са школ Салігорска ў нефармальнай гутарцы з карэспандэнтам газеты «Кур'ер» сказала, што ў яе школе ўжо некалькі настаўнікаў напісалі згоду на працу па няпоўнай стаўцы. «У іх набралася 19 гадзін, замест патрэбных 20. «Лішнюю» гадзіну, ну, ніяк не наскрэбці», – патлумачыла яна.

Але больш за ўсё яе здзіўляюць іншыя «новаўвядзенні».

«Раней былі профільныя класы. Сістэма паспела наладзіцца, усё добра працавала. А пасля з чыёйсьці незразумелай ці то прыхамаці, ці то яшчэ нечага ўсё наладжанае абсеклі. І вось зноў вяртаюць профільныя класы. Дзе была логіка, калі іх адмянялі? І хто з высокіх чыноўнікаў падаў у адстаўку, каб захаваць гонар міністэрства ці прынамсі б прызнаў калі не віну, то праблему, праз якую ў сістэме адукацыі ўсё так адбываецца?

### Дзе імідж і прага?
**Брестский курьер**

Як абвяшчае вядомая рэклама: «Імідж – нішто. Прага – усё!». Аднак у сферы адукацыі, як кажуць самі педагогі, яе можна ўжыць з дакладнасцю да наадварот: ні іміджу, ні прагі.

Сяргей Маскевіч пазначыў тры актуальныя задачы сярэдняй адукацыі ў новым навучальным годзе. Па-першае, закрыццё ўсіх вячэрніх школ. Па-другое, забеспячэнне ва ўстановах, размешчаных у гарадской мясцовасці, напаўняльнасці 1, 5, 10 класаў у колькасці 24 чалавек. І па-трэцяе, стварэнне рацыянальнай і аптымальнай сеткі ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі, у якіх будуць функцыянаваць класы з вывучэннем на падвышаным узроўні асобных навучальных прадметаў (з улікам запатрабаванасці прафесій на рынку працы).

Але, як паказвае жыццёвы досвед, каб узняць «баявы дух» педагога, дастаткова падняць яму імідж і зарплату. А апошнія рашэнні гэтаму зусім не спрыяюць. І калі раней педагогам быць лічылася пачэсна, то сёння – жаласна, і не выпадкова ВНУ не дабіраюць студэнтаў на бюджэтныя месцы.

Не трэба хадзіць далёка – у гэтай уступнай кампаніі Брэсцкі ўніверсітэт на дзённую форму навучання за кошт бюджэту набраў 457 абітурыентаў пры плане 510, а на завочную – 116 замест 140. І на спецыяльнасці «фізіка» і «матэматыка» (навукова-педагагічная дзейнасць) не пададзена ніводнай заявы.

*(Пачатак на стар.1)*

## «Залатая яблынька»

***Казкі, легенды, паданні. Хрэстаматыя дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту***




У чытанцы «Залатая яблынька» сабраныя народныя казкі, легенды і паданні, а таксама творы беларускіх пісьменнікаў. Фалькрорныя пярліны пераказалі такія майстры слова як Якуб Колас, Крыстына Лялько, Уладзімір Сіўчыкаў, Уладзімір Ягоўдзік і Алесь Якімовіч, а сярод арыгінальных твораў – тэксты Яна Баршчэўскага, Пятра Васючэнкі, Клаўдзіі Каліны, Янкі Купалы, Максіма Танка, Станіслава Шушкевіча.

Укладальнікам тома выступіў пісьменнік Уладзімір Сіўчыкаў, а аздобіла яго сваімі малюнкамі мастачка Алена Карповіч.

Адрасуецца кніжка дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, іх бацькам, бабулям і дзядулям, а таксама навучэнцам педагагічных каледжаў, настаўнікам і выхавацелям.

Чытачоў найперш павінны зацікавіць такія легенды як «Адкуль пайшлі беларусы», «Страцім-лебедзь», «Палешукі і палевікі», паданні «Возера Нарач», «Пра Нёман і Лошу», «Бярэсце», «Жодзіна», «Адкуль назва Івянец», «Браслаў», «Чорная дама», «Пане Каханку», «Бяздоннае багацце» і іншыя.

Пазнаёміцца з раздзелам «Паданні» можна па спасылцы: http://nastaunik.info/files/f/1052_zalataja-padanni.docx

# ЧАМУ СЫХОДЗЯЦЬ ПЕДАГОГІ

## або колькі словаў пра матывацыю

Зразумела, праблемы належнай аплаты працы і годнага ўзроўню жыцця педагога ў нашых разважаннях мы ніяк не зможам абмінуць. Але наколькі знешнія фактары, якія звязаны толькі з матэрыяльнымі ўзнагародамі, у стане стымуляваць чалавека? Не сакрэт, што педагогі, арыентаваныя толькі на знешнія паказчыкі, звычайна не надта імкнуцца да павышэння сваёй кваліфікацыі як да пастаяннага працэсу (паездкі на курсы – гэта справа трохі іншая). Як сцвярджаюць даследчыкі, такія настаўнікі выкарыстоўваюць і ўжываюць нешта новае ў сваёй працы досыць эпізадычна – напрыклад, перад адкрытымі ўрокамі… У жыцці, вядома, так ці інакш матэрыяльныя стымулы найчасцей спалучаюцца з матывам прэстыжу. Тут гаворка ідзе пра самасцвярджэнне праз знешнюю станоўчую ацэнку сваёй дзейнасці. Прычым сфармаванасць пазнавальнай дзейнасці вучняў, узровень засваення ведаў не стаяць для такога педагога на першым месцы, ён абірае найперш дасягненне асабістага поспеху. Таму нярэдка ўжывае толькі тыя сродкі, якія абяцаюць хуткую і эфектыўную аддачу, без працяглай і настойлівай дапрацоўкі.

У ідэале найбольш каштоўным і якасным матывам да дзейнасці педагога павінна быць ягонае памкненне да самарэалізацыі, самаразвіцця. Працытую цікавае назіранне: «Урок для такога педагога – гэта падстава для рэалізацыі сябе як асобы і прафесіянала. Кожны раз ажыццяўляецца выбар лепшага варыянту метаду, які заўсёды рэалізуецца з улікам інтарэсаў дзяцей. Такім чынам, патрэба ў самаўдасканаленні з'яўляецца асноўным матывам і стрыжневай якасцю настаўніка-інаватара».
Тое, што ў педагога павінны спалучацца як знешнія, так і ўнутраныя матывы да дзейнасці, відавочна. Добра, калі гэтыя фактары знаходзяцца ў гармоніі, раўнавазе. Але на практыцы вельмі часта дасягнуць такой раўнавагі немагчыма па шэрагу аб'ектыўных прычын (хоць бы адносінаў з боку адміністрацыі і інш.). Таму, на думку спецыялістаў, найбольш аптымальнае такое спалучэнне фактараў матывацыі, калі пераважаюць унутраныя матывы, а знешнія адмоўныя матывы зведзены да мінімуму (!). Інакш кажучы, калі педагогу хацелася б не перашкаджаюць займацца ягонай справай.
Кожная навучальная ўстанова, кожны калектыў, вядома ж, мае свае асаблівасці, свой мікраклімат. Вось некаторыя з выказванняў педагогаў на тэму матываванасці:
– У нас у школе адміністрацыя ніяк не матывуе настаўнікаў. У асноўным імі рухае матэрыяльны фактар. Асабіста мяне ратуе ўдзел у розных конкурсах як самой, так і з дзецьмі. Калі бачыш вопыт іншых настаўнікаў, тады таксама хочацца паспрабаваць яшчэ раз.
– Калега выйграла конкурс, а яе дырэктар на нарадзе абвінавацію, што яна ўдзельнічае ў конкурсах без яго згоды... Хаця лаяць за перамогу – значыць дэманстраваць сваю бездапаможнасць як кіраўніка.
– Матывацыя для многіх – дасягнуць поспеху ў справе. Удзельнічаю я асабіста або з вучнямі, але патрэбен поспех як доказ таго, што ты робіш усё правільна. На жаль, не заўсёды гэты факт мае месца.
А завяршыць развагі на тэму матывацыі хочацца словамі згаданай мною калегі, якая пайшла са школы: «У многіх кампаніях праводзяць цэлыя трэнінгі з мэтай матывацыі супрацоўнікаў. На такіх трэнінгах мне давялося бываць не аднойчы, яшчэ калі працавала ў школе. Мяне ўразіла, што там сапраўды матывуюць на поспех, на дасягненне мэты. Пасля такога трэнінгу хочацца горы звярнуць».

Свае шляхі кожны абірае ў рэшце рэшт сам. Толькі рашэнні мы прымаем не ў нейкім вакууме, а пад уплывам жыццёвых абставін… Чаму сыходзяць педагогі са сферы адукацыі? І ці не хворая шмат у чым гэтая сістэма? Пытанне, бадай што, рытарычнае…

*Вадзім Жылко*

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ ПАПРАСІЎ ПЕРАДАЦЬ СВАЮ КНІГУ НАСТАЎНІКАМ

«Я хачу сваіх «Асвечаных беларушчынай» перадаць Таварыству беларускай школы для бясплатнай раздачы настаўнікам», – напісаў з вязніцы Алесь Бяляцкі – літаратуразнаўца, які праз сітуацыю ў краіне стаўся абаронцам правоў чалавека і праз гэта трапіў у лік палітвязняў.
«Асвечаныя беларушчынай» – кніга эсэ і нарысаў пра літаратуру і пісьменнікаў, якую Алесь Бяляцкі дапісваў ужо ў зняволенні. Частка твораў, размешчаных у гэтай кнізе, друкавалася ў часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць», а таксама ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».
«Кніга, падрыхтаваная за кратамі, знаёміць чытача з Алесем Бяляцкім – удумлівым гісторыкам літаратуры, схільным да псіхалагічных рэканструкцый, тонкім літаратурным крытыкам і эсэістам, які здолеў працягнуць сваю літаратуразнаўчую дзейнасць нават у нечалавечых умовах, што створаныя ў беларускіх турмах», – піша ва ўводзінах да выдання укладальніца і рэдактар Паліна Сцепаненка.
Калі вы настаўнік і хочаце атрымаць кнігу «Асвечаныя беларушчынай», лістуйце на nastaunik.info@gmail.com .

# ВЫЙШАЎ ФІЛЬМ ПРА ГЛЫБОЦКІХ НАСТАЎНІКАЎ-ПАТРЫЁТАЎ

«Глыбоцкая змова». Дакументальны фільм Валерыя Мазынскага (2013, Беларусь).
Па вызваленні Беларусі ад нацысцкіх захопнікаў у краі паступова адраджаецца нармальнае жыццё. Аднак з пэўнымі «асаблівасцямі»: аднавіліся савецкія парадкі, зноў разгарнуліся рэпрэсіі, пачалася татальная русіфікацыя, асабліва ў сістэме адукацыі. У адказ на гэта ўзнікае падпольная моладзевая арганізацыя – Саюз беларускіх патрыётаў. «Калі немцы нам не забаранялі вучыцца і ведаць сваю гісторыю, культуру, то чаму цяпер мы не можам гэтага рабіць?» – згадвае адна з гераінь фільму. Сябры арганізацыі, маладыя настаўнікі, змагаліся з ператварэннем Беларусі ў расійскую правінцыю, імкнуліся выхаваць нацыянальна свядомых дзяцей, хай і ў савецкіх школах. У 1947 годзе савецкія спецслужбы разграмілі Саюз, арыштаваўшы большасць яго сяброў. Траіх актывістаў чакаў смяротны вырак, аднак яго замянілі на 25 гадоў зняволення. На розныя тэрміны, ад 8 да 20 гадоў, асудзілі яшчэ чатыры дзясяткі маладзёнаў.
Рэжысёр кінастужкі Валерый Мазынскі гаворыць, што пра гісторыю стварэння і паразы «Саюзу беларускіх патрыётаў» ён даведаўся ў 1990-я гады. Сёння гэтая тэма, на думку творцы, актуальная і надзённая. «Мне здаецца, што сёння яна самая важная для Беларусі. Гэта – школа. Гэта – настаўнік. Не бацькі, а менавіта настаўнік. І гэтая гісторыя пра тое, як за тры гады свядомыя настаўнікі, былыя выпускнікі Віленскай гімназіі, здолелі ўкласці сваім навучэнцам столькі любові да роднай зямлі, што тыя нават сёння, адыходзячы ў лепшы свет, згадваюць сваіх настаўнікаў самымі лепшымі словамі, да гэтага часу яны засталіся патрыётамі сваёй радзімы».
Паглядзець фільм можна па спасылцы: http://www.youtube.com/watch?feature=player_embedded&v=peMDdMGLYFU .

# «ЖЫВАЯ МОВА»: ЯК КАЗАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ ПРЫГОЖА

«Жывая мова» Юрася Бушлякова – калекцыя практычных эсэ пра тое, як гаварыць па-беларуску правільна і прыгожа. Цягам сваёй рэдактарскай працы аўтар выяўляў складаныя, спрэчныя ці памылковыя моманты ў жывой мове, аналізаваў іх і даваў парады, якія склалі цыкл радыёперадачаў і леглі ў аснову кнігі.

# ПАКАЛЕННЕ «Б»
## РАЗВАГІ ПАСЛЯ АПОШНЯГА ЗВАНКА

*(Працяг. Пачатак у №30)*

Дзяўчынка, якая пісала дзівосныя апавяданні і аповесці, хлопчык, які складаў цалкам дарослыя сцэнарыі, яшчэ адзін хлопчык, выдатны рэпер, з усімі рысамі сапраўднага паэта – дзе яны і што робяць?

З аднаго боку, мне ж лягчэй: я не пачуваюся пацукаловам, які завабіў іх на небяспечны шлях. А з другога – мне вельмі шкада, што вы не прачытаеце ні гэтых вершаў, ні гэтай прозы. З імі нешта нейкае робіцца паміж дваццаццю і дваццаццю двума – нездарма гэта ўзрост сталасці, пасля якога можна самастойна купляць алкаголь.

Нешта падобнае я думаю пасля кожнай выпускной вечарыны ў родным ліцэі, дзе ў кожным выпуску бывае чалавек пяць з сапраўдным талентам. Але сёлета мне асабліва млосна, таму што гэтых жа я сапраўды любіў, да іх ішоў як на свята, з іх пытанняў і сачыненняў здабываў адсутную энергію аблуды. Мне здавалася, што гэтыя ўжо... гэтыя абавязкова...

Упершыню я адчуў такое, калі разам з маці вазіў адзін яе выпуск – 1995 года – у «Артэк», да вялікага педагога Валодзі Вагнера, які памёр праз шэсць гадоў. Такім цудоўным, свабодным, шчаслівым здавалася мне гэтае новае пакаленне, такія яны былі незашораныя, і я быў упэўнены: вось гэтых ужо не пашыхтуеш, яны сваю волю не аддадуць! Пашыхтавалі як міленькіх, і амаль усе перспектыўныя сталі абсалютнымі мышкамі, а хто не стаў – той за мяжой, дзе мы і сустракаемся перыядычна, успамінаючы тагачасны «Артэк».

Жахлівая сумна, а галоўнае – ну смешна неяк хаваць сябе ў 35, у 45... А перспектывы ніякай, і на выпаленай гэтай зямлі нічога ўжо не пабудуеш. З якім спадзевам я глядзеў на гэты свой клас, у якім столькі было непасрэднасці, гумару, раптоўнага хуліганства, і столькі яны чыталі на розных мовах, і такія самадзейныя фільмы здымалі, і з кім бы я яшчэ так пагаварыў пра «Майстра і Маргарыту» ці «Ціхі Дон» – у мяне і сярод дарослых мала падобных суразмоўцаў! Увесь настаўніцкі пакой ад іх стагнаў, і ўсе іх любілі. І часам, далібог, я быў упэўнены, што яны ўжо не дадуць... іх ужо не пашыхтуюць... яны ўжо незалежныя... (Пры тым, што пра палітыку мы на ўроках не гаворым, гэта асабіста для мяне самае строгае табу: вучань павінен ведаць матэрыял, навязваць яму перакананні – не мой клопат.) І тым не менш я амаль перакананы, што праз тры-чатыры гады ўсе яны будуць беспаваротна зачараваныя, і не ва ўзросце рэч, а ў чымсьці галоўным, чаго ім недададзена.

Што гэта?

Баюся выказаць здагадку, але, на маю думку, рэч у навыку супрацьву, у здольнасці насуперак усяму развівацца самастойна. Маса вітамінаў дасталася гэтаму пакаленню (1985–1995 гадоў нараджэння), але недададзена адна выратавальная здольнасць – супраціў матэрыялу. Памятаю файны дакументальны фільм, дзе праграмісты мадэлявалі эвалюцыю і ўсё ніяк у іх не атрымліваўся панцыр – яны забыліся ўнесці ў зыходныя ўмовы вонкавую пагрозу, а без яе панцыр быў не патрэбны. У цяперашніх выпускнікоў, якія б бліскучыя яны ні былі, адсутнічае супраціўляльнасць асяроддзю: мімікрываць яны навучаны выдатна, гэта ў іх, верагодна, у крыві, у хрыбце, а вось настойваць на сваім не ўмеюць нават на ўроку. Мы навучылі іх спрачацца, так, і адстойваць сваё меркаванне, але яны разумеюць, што гэта ўсё гульня. І што ў рэшце рэшт з настаўнікам трэба згаджацца, бо статус у яго такі. А пра сябе можна думаць што заўгодна. Іх амаль нельга пераканаць, так, таму што згаджаюцца яны вельмі лёгка: для іх гэта непрынцыпова. А што ж для іх прынцыпова? – думаю я.

Даволі шмат чаго: сяброўства, салідарнасць, гарызантальныя сувязі агулам. Права выязджаць за мяжу, адпачываць на свой лад і забаўляцца так, як падабаецца. Праца не павінна быць улюбёнай – можна і пацярпець. Тэлік і іншая прапаганда не абавязаны быць праўдзівымі – ёсць навінавыя сайты і сацыяльныя сеткі, там усё напісана. Усё патрэбнае кіно ляжыць у інтэрнеце, усе патрэбныя эмоцыі ёсць у сям'і. Кантакты са светам можна мінімізаваць, і толькі.

Вядома, сучаснага школьніка бэсціць не толькі аўтарытарызм ці дзяржаўная мана, не толькі рэпрэсіі, правакацыі ці забароны. Яго разбэшчваюць любыя дзесяць хвілін любога шоў ці серыяла, любы артыкул у праўладным выданні. Але ж усяго гэтага можна не заўважаць! Вырасла пакаленне, пра якое я марыў: людзі, якія не ідуць на канфрантацыю, а проста выбудоўваюць сабе альтэрнатыву. Яны могуць схавацца ад гэтага свету ў любой кавярні, на любой сінекуры, колькасць якіх незалежна ад крызісу застаецца ранейшай. І ўся навакольная несправядлівасць будзе ім абсалютна па барабане – можна ж адседзецца, краіна ў нас шчылістая.

Але вось выяўляецца – нельга. Савецкі час быў у гэтым сэнсе далёка не такі падступны. Ён патрабаваў знешняй мімікрыі (пра гэта «Стылягі»): хадзі як мы, адзявайся як мы... Цяперашні, калі не браць у разлік школьную форму, патрабуе зусім іншага: хадзі як хочаш, адцягвайся як ведаеш, наогул атрымлівай асалоду. Але толькі не глядзі туды, туды і туды. Рабі выгляд, што гэтага няма. Ну і, вядомая рэч, шануй нескладаныя рытуалы, перш за ўсё царкоўныя.

Гэты геданістычны аўтарытарызм аказваецца куды больш разбэшчвальны, і супраціўляцца яму амаль немагчыма: усё ж дазволена, дзівак. На ражон толькі не лезь, а ўсё астатняе – калі ласка. І дзіця, не маючы найпростых навыкаў супрацьву, мімікруе непрыкметна, па міліметры, а да дваццаці двух – трох гадоў гэта ўжо гатовы прадукт сістэмы, здольны змагацца з ёй, так, але толькі да першага вокрыку. Такое дзіця прызвычаілася да хуткіх вынікаў. Не ўмее нічым ахвяраваць. Шчыра мяркуе, што калі нешта не атрымліваецца з першага разу, то, напэўна, і не трэба. Бяда не ў тым, што гэтыя прыўдалыя – сапраўды прыўдалыя! – дзеці не ўмеюць абараняць свае правы. Бяда, што яны не ўмеюць абараняць свае індывідуальнасці і здольнасці. Што яны закопваюць у зямлю свае таленты, сутыкнуўшыся з першымі рэдактарамі, цэнзарамі альбо папросту дурнямі. Бяда ў тым, што яны лепш выслізнуць ад сутыкнення, унікнуць канфрантацыі, сыдуць у альтэрнатыву – і самі не заўважаюць, як уцёкі сквашваюць іх кроў.

Гэта пакаленне «Б», ад слова «бег». Я іх вельмі чакаў. І, на жаль, дачакаўся.

*Дзмітры Быкаў, Московские новости*

*Пераклад Nastaunik.info, паводле http://www.mn.ru/*



Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта **Nastaunik.info**
Адрас для допісаў: ***nastaunik.info@gmail.com***
Наклад 200 асобнікаў